№121 (1934)

Аўторак, 6 ліпеня 2004 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Выдавец
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

ЛІСТ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# Гнюснасць

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**заснавальнік**
**і галоўны рэдактар**
**газеты «Народная Воля»**



Ніколі не прыбягаў да моцных выразаў. Але тое, што адбылося напрыканцы мінулага тыдня ў Нацыянальным цэнтры інтэлектуальнай уласнасці, сапраўды адпавядае гэтаму слову — **ГНЮСНАСЦЬ.**

Пяць членаў Апеляцыйнага савета — **Наталля БАРКУН, Юрый БАБЧОНАК, Алег ЛАТЫШЭВІЧ, Анжэла ЧВЫРОВА, Сяргей ШАБЕКА** — пайшлі на беспрэцэдэнтны крок. Замест таго каб у адпаведнасці з літарай закону расставіць усе кропкі над "і", яны стварылі, можна сказаць, дзікую сітуацыю, калі на прававым полі Рэспублікі Беларусь беспадстаўна з'явіўся нядобрасумленны ўласнік фірменнага таварнага знака "Народная Воля".

Вы можаце ўявіць, дзевяць (!) гадоў калектыў рэдакцыі ў страшэнна цяжкіх, амаль невыносных умовах выдае газету пад такой назвай, а яму раптам кажуць: не здзіўляйцеся, калі лагатып "Народная Воля" з'явіцца на жаночых трусіках ці плаўках фірмы "Serge"! А нядобразычліўцы адразу перайшлі ў наступ: паколькі Апеляцыйны савет не адмяніў першапачатковага рашэння, то С.Атрошчанка, уладальнік той жа кампаніі "Serge", паставіць пытанне аб забароне выхаду сённяшняй газеты "Народная Воля" і наладзіць выпуск свайго выдання пад такой назвай.

Супакою сяброў, шчырых прыхільнікаў **маёй** і **нашай** "Народнай Волі". І адначасова паспрабую ўрэзоніць зласліўцаў. **Ніхто не зможа выдаваць газету "Народная Воля", пакуль жывы яе заснавальнік — Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ.** Толькі яго смерць зможа нейкім чынам унесці карэктывы. Паўтараю: тое, што адбылося ў Нацыянальным цэнтры інтэлектуальнай уласнасці, гэта сапраўды **ГНЮСНАСЦЬ.** Нягледзячы на адыёзнае рашэнне, я, як адзіны заснавальнік газеты і прадпрыемства пад адзінай назвай "Народная Воля", маю ў адпаведнасці з 50-м артыкулам Грамадзянскага кодэкса **выключнае** права на фірменнае найменне "Народная Воля" і магу забараніць любой асобе выкарыстоўваць гэтую назву.

Як развіваліся падзеі? Яшчэ на пачатку снежня мінулага года мяне тэрмінова выклікалі ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь. Думаў, прэтэнзіі да нейкага крытычнага матэрыяла. А тут як абухом па галаве: нехта С.Атрошчанка, а дакладней — уладальнік фірмы па вытворчасці жаночай бялізны, просіць пракуратуру спыніць выданне "Народная Воля", паколькі ён зарэгістраваў таварны знак пад такой назвай і мае намер выдаваць сваю газету з такім жа брэндам. Не, не мог я паверыць такому вар'яцтву. Як жа так: шмат гадоў прайшло, як я зарэгістраваў выданне пад назвай "Народная Воля", арганізаваў унітарнае прадпрыемства пад такой "шапкай" — і на табе, з'явіўся субчык-галубчык, якому ў Нацыянальным цэнтры інтэлектуальнай уласнасці запалілі зялёнае святло?!

З пракурорам Рыгорам Шостакам, на пагонах якога тры вялікія зоркі, дамовіліся: я вывучу сітуацыю, а праз два дні зноў пад'еду ў пракуратуру. Калі я, поўны рашучасці аб'явіць вайну тым, хто нахабна напаў на "Народную Волю", топчучы ўсе пісаныя і няпісаныя законы, у чарговы раз патэлефанаваў начальніку аддзела пракуратуры спадару Шостаку, то пачуў: *"Прыязджаць не трэба, у нас да Вас пытанняў няма".*

Але ў мяне пытанні заставаліся. І я разам з экс-суддзёй Канстытуцыйнага суда, доктарам юрыдычных навук, прафесарам Міхаілам Іванавічам Пастуховым накіраваўся ў той самы Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці. Накіраваўся, каб паглядзець у вочы тым, хто пайшоў на відавочную здраду. Людзі гадамі не могуць на законных падставах зарэгістраваць таварны знак, а тут усё было зроблена за некалькі дзён. Сёння, напрыклад, была прызначана экспертыза — і сёння ж на стол тагачаснага генеральнага дырэктара цэнтра В.Кудашова лёг адпаведны дакумент. Такога нават у сне нельга прысніць!

Калі мы пераступілі парог кабінета Валерыя Іванавіча Кудашова, ён ледзь не стаў абдымацца: маўляў, мы разумеем ваша абурэнне, але, ведаеце, нічога не маглі зрабіць. І паказаў рукой на тэлефон урадавай сувязі: з-за гэтага Атрошчанкі ён некалькі дзён разрываўся ад званкоў. Адкуль? Няцяжка было здагадацца. А каб нейкім чынам захаваць прыстойнасць, спадар Кудашоў нават зрабіў намёк, што справа наша выйгрышная, трэба толькі падаць заяву ў Апеляцыйны савет.

Прайшло паўгода, В.Кудашоў, не ведаю па якіх прычынах, пакінуў Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці, яго месца заняў Леанід Іосіфавіч Варанецкі. У нас не было ніякіх сумненняў у тым, што справядлівасць адновіцца, таварны знак "Народная Воля" не трапіць у рукі тых, хто на гэта не мае ніякага права. Наша ўпэўненасць падмацоўвалася разглядам справы з поўнай перавагай нашых аргументаў і вывадаў. Але насцярожыла нечаканае спыненне дыскусіі: аб'яўляецца перапынак. А калі члены Апеляцыйнага савета зноў з'явіліся ў зале, то старшыня Ю.Бабчонак аб'явіў: слуханні бакоў на гэтым заканчваюцца, рашэнне будзе зачытана заўтра ў 14 гадзін.

І хто б мог падумаць, што назаўтра затрымка на адну хвіліну перад святлафорам адыграе злосны жарт: прадстаўнікі рэдакцыі не сталі сведкамі абвяшчэння рашэння. Члены Апеляцыйнага савета за некалькі хвілін да прызначанага часу прашмыгнулі ў залу і хуценька зачыталі вердыкт.

Шкада, вельмі шкада, шаноўныя чытачы, што мне праз некалькі хвілін трэба адлятаць у далёкую камандзіроўку і я не магу падрабязна расказаць пра ўсё тое, што адбылося ў мінулы чацвер у Нацыянальным цэнтры інтэлектуальнай уласнасці. Скажу толькі: калі я сустрэў у калідоры членаў Апеляцыйнага савета, яны сарамліва адводзілі вочы. А адзін з іх сказаў: *"Наша рашэнне мае толькі псіхалагічнае значэнне, ніхто вам не забароніць выдаваць "Народную Волю".*

Не забароніць — таму што на нашым баку законы. Але ж чаму ў нас так лёгка можна іх парушаць? Дзейнічае "тэлефоннае права"? А як жыць без сумлення? Няхай на гэтае пытанне адкажуць самі сабе члены Апеляцыйнага савета, прозвішчы якіх я ў алфавітным парадку назваў у другім абзацы свайго ліста.

З высновамі незалежнай прававой экспертызы па сітуацыі, створанай Нацыянальным цэнтрам інтэлектуальнай уласнасці, пазнаёмім вас, шаноўныя чытачы, праз тыдзень. Вернемся і назавём пайменна ўсіх, хто замахнуўся на "Народную Волю" ў той час, калі яна, як глыток свежага паветра, неабходна кожнаму сумленнаму беларусу.

Жыве "Народная Воля"!

ПОСТСКРИПТУМ

## Редакция воспроизводит те положения законов, которые, по нашему мнению, нарушены Апелляционным советом Национального центра интеллектуальной собственности

### Гражданский кодекс

*Статья 50. Фирменное наименование*

Юридическое лицо, фирменное наименование которого зарегистрировано в установленном порядке, имеет исключительное право его использования.

*Статья 1013. Право на фирменное наименование*

1. Юридическое лицо имеет исключительное право использовать фирменное наименование на товарах, их упаковке, в рекламе, вывесках, проспектах, счетах, печатных изданиях, официальных бланках и иной документации, связанной с его деятельностью, а также при демонстрации товаров на выставках и ярмарках, которые проводятся на территории Республики Беларусь.

2. Фирменное наименование юридического лица определяется при утверждении его устава и подлежит регистрации путем включения в Единый государственный регистр юридических лиц.

*Статья 1016. Отчуждение права на фирменное наименование*

1. Отчуждение и переход права на фирменное наименование юридического лица не допускается, кроме случаев реорганизации юридического лица или отчуждения предприятия в целом.

### Закон о товарных знаках

*Статья 5. Иные основания для отказа в регистрации*

...

3. Не регистрируются в качестве товарных знаков обозначения, воспроизводящие:

3.1. известные на территории Республики Беларусь в отношении однородных товаров фирменные наименования (или их части), принадлежащие другим лицам; ...

...

3.4-1. названия зарегистрированных в Республике Беларусь средств массовой информации без разрешения их учредителей в отношении однородных товаров;

### Закон о нормативных правовых актах Республики Беларусь

*Статья 1. Основные термины и понятия, применяемые в нормотворческой деятельности*

Коллизия нормативных правовых актов — противоречие (несоответствие) норм действующих нормативных правовых актов, регулирующих одни и те же общественные отношения.

*Статья 67. Обратная сила нормативного правового акта*

Нормативный правовой акт не имеет обратной силы, то есть не распространяет свое действие на отношения, возникшие до его вступления в силу, за исключением случаев, когда он смягчает или отменяет ответственность граждан или иным образом улучшает положение лиц, на которых распространяется действие нормативного правового акта...

### Закон о печати и других средствах массовой информации

*Статья 13. Отказ о регистрации*

Отказ в регистрации средства массовой информации возможен только по следующим причинам:

...

4) если государственным органом ранее зарегистрировано средство массовой информации с таким же названием.

## Обращение членов гражданской инициативы «Мы помним» к молодым белорусским гражданам

Мы, члены семей политиков и общественных деятелей, похищенных и пропавших без вести, хотим обратиться к молодым белорусам — к тем, от кого зависит будущее нашей страны.

Четыре года назад, 7 июля 2000 года, был похищен журналист белорусского корпункта Общественного российского телевидения оператор **Дмитрий ЗАВАДСКИЙ.** Ему не было и тридцати лет.

Он был так же молод, красив и умен, как вы сейчас; полон планов и идей. Он хотел жить для своей страны, своей семьи, но чей-то больной разум не позволил ему реализовать свои мечты. Не позволил ему увидеть, как растёт и взрослеет его сын. Как не позволил Юрию **ЗАХАРЕНКО, Виктору ГОНЧАРУ и Анатолию КРАСОВСКОМУ** увидеть своих выросших детей и родившихся внуков.

Все, что мы делаем, — это пытаемся узнать правду. Мы хотим, чтобы правду о судьбах своих отцов и дедов могли узнать их дети и внуки. Но это невозможно без вашей помощи и поддержки.

Мы вместе должны требовать у власти ответов на вопросы:

*Почему остановлены расследования?*

*Почему информация, полученная в ходе следственных действий, скрывается?*

*Почему до конца следствия от своих должностей не освобождены подозреваемые, занимающие высокие посты в структурах власти?*

Только когда власти дадут ответы на эти вопросы, вы и мы сможем быть уверены в том, что трагедия наших семей не повторится снова.

Поэтому, вы, молодые белорусы, можете создать условия, при которых вы и ваши дети будут жить свободно, безо лжи и страха.

Каким будет наше будущее, зависит от всех нас.

Поддержите наши семьи — встаньте **7 июля** рядом с нами в "Цепь неравнодушных людей". Как обычно, она возьмет начало **в Минске на Октябрьской площади в 17.30.**

ЖАДАЕМ ВЕДАЦЬ ПРАЎДУ!

4 года з дня знікнення

Зьміцера ЗАВАДСКАГА

7 ліпеня

Кастрычніцкая плошча

17:30

жывы ланцуг неабыякавых людзей

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +19...+21, сонечна, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +21...+23, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +18..+20, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +13...+15, дождж, уначы — +10...+12, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +20...+22, сонечна, уначы — +12...+14, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +16...+18, уначы — +11...+13, без ападкаў.

www.meteo.by

Пейджинговую связь
редакции обеспечивает




пейджинг-система
(017) 222-46-51
(017) 222-46-52

### На ваенную службу праз цэнтры занятасці

Гродзенскі гарадскі цэнтр занятасці (ГЦЗ) пачаў прадастаўляць даныя для тых, хто жадае ўладкавацца на ваенную службу па кантракце. У сваю чаргу спісы вакансій падаюць самастойна ваенныя часці і ваенкаматы.

Беспрацоўным прапаноўвалася 16 ваенных прафесій. Акрамя выключна армейскіх, такіх як камандзір роты ці ўзвода, патрэбны былі спецыялісты цывільных спецыяльнасцяў — музыканты, электрыкі, будаўнікі.

На сённяшні дзень у Гродзенскай вобласці 20 працэнтаў ваенных — кантрактнікі. А ва Ўзброеных сілах Беларусі іх разам з афіцэрамі і прапаршчыкамі налічваецца больш за 52 працэнты ад усяго асабовага складу.

**Аляксандр ХІЛІМОН.**

### Дзякуючы IVEKO

У Беларусі працуюць чатыры суднабудаўнічыя заводы. Зараз верфі прастойваюць, а работы па рамонце караблёў складаюць толькі 10 працэнтаў ад агульнай загружанасці. У такой сітуацыі выжываць суднабудаўнічым прадпрыемствам дапамагае пераарыентацыя на выкананне заказаў, што паступаюць з іншых галін эканомікі: абсталёўваюцца машыны для перавозкі балонаў з газам, камплектуюцца збожжасушылкі...

Апошнім унутрыгаліновым заказам для айчынных суднабудаўнічых заводаў стала заданне на будаўніцтва двух карабельных карпусоў ад галандскай фірмы IVEKO, з якім беларускія спецыялісты паспяхова справіліся.

**Павел СВЯРДЛОЎ.**

ОАО "МИНСК-ЛАДА"
LADA Генеральный импортер ОАО "АвтоВАЗ" в РБ
• ПРОДАЖА АВТОМОБИЛЕЙ В КРЕДИТ.
• ОТСРОЧКА ПЛАТЕЖА.
• ЗАЧЕТ СТАРОГО АВТО ПРИ ПОКУПКЕ НОВОГО.
(017) 275-85-60, 275-18-05
Минск, ул. Серова, 1
Сервис: (017) 275-37-00, 275-84-93
Запчасти:(017) 275-26-33, 275-36-07

### Працяг палітыкі запалохвання іншадумцаў

Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Беларускі Хельсінкскі камітэт" (БХК) расцэньвае напад на дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Валерыя Фралова як "працяг дзяржаўнай палітыкі запалохвання іншадумцаў і насаджэння ў краіне атмасферы страху напярэдадні парламенцкіх выбараў". Аб гэтым гаворыцца ў заяве БХК.

БХК выказвае "рашучы пратэст палітычнаму тэрору і патрабуе ад беларускіх уладаў тэрміновага і дасканалага расследавання інцыдэнта і гарантый бяспекі палітычных і грамадскіх дзеячаў".

### Ута ЦАПФ: напад на дэпутата Валерыя Фралова мае палітычныя матывы

"Час і акалічнасці нападу на дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Валерыя Фралова ўказваюць на палітычныя матывы гэтага злачынства". Аб гэтым гаворыцца ў заяве кіраўніка спецыяльнай рабочай групы па Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ (ПА АБСЕ) Уты Цапф.

Пры гэтым яна нагадвае, што апазіцыйныя палітыкі ў Беларусі "і раней неаднойчы падвяргаліся нападам". Беларускі ўрад, лічыць У.Цапф, павінен "зрабіць шмат для таго, каб гарантаваць бяспеку беларускіх апазіцыйных палітыкаў" падчас парламенцкіх выбараў восенню 2004 года. Улады абавязаны "зрабіць усё, каб як мага хутчэй высветліць абставіны і прычыны" нападу на В.Фралова, гаворыцца ў заяве кіраўніка рабочай групы па Беларусі.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

БЕСПРЕДЕЛ

## 1 июля в Минске был зверски избит депутат Палаты представителей генерал-майор Валерий Фролов

*Вечером 1 июля депутаты Валерий Фролов и Сергей Скребец вернулись самолетом из Москвы.*



В 23.20 Фролов в сопровождении водителя зашел в подъезд своего дома по Казарменному переулку, 4. Как только генерал открыл входную дверь, на него набросились, схватили с двух сторон за руки и начали избивать. Били ногами по голове, лицу, наносили удары по почкам и ребрам...

Нападавших было пятеро. Четверо из них были в черных масках. Таких, которые используют бойцы некоторых спецподразделений.

У Фролова отобрали портфель, где находились книги, документы, портмоне и паспорт. Внутренние карманы пиджака вырвали вместе с подкладкой.

Водителя Фролова тоже жестоко избили, но ничего, кроме ключей от машины и квартиры, не взяли.

*"Ребята были здоровые, высокие, накачанные,* — говорит Валерий Фролов. — *Когда мы вошли, я заметил, что один из них, тот, который был без маски, стоял наклонившись и делал вид, что его тошнит. Я еще подумал, что парню, наверное, плохо... Позже именно он отдал команду забрать ключи от квартиры и машины".*

Нападавших не интересовали ни мобильные телефоны, ни деньги. По мнению Валерия Дмитриевича, этот факт полностью опровергает версию разбойного нападения с целью ограбления.

*"Это политический заказ,* — считает депутат. — *Разбой, граничащий с уголовщиной. Мне думается, кто-то предполагал, что мы из Москвы приехали или с какими-то очень важными документами, или с большими деньгами.*

*Тем более, когда мы ехали из аэропорта, нашу машину уже в городе остановили сотрудники ГАИ. Они в течение нескольких минут пытались кому-то дозвониться, а потом нас отпустили. Наверное, докладывали людям в масках, через сколько минут я буду входить в собственный подъезд...".*

Поднявшись в квартиру, Фролов вызвал милицию и сообщил о нападении коллегам Сергею Скребцу и Владимиру Парфеновичу. Прибывшая на место происшествия следственная группа Ленинского РУВД работала в течение двух часов: оперативники сняли отпечатки пальцев со стен, взяли на экспертизу запекшиеся на полу пятна крови. Кстати, утром в подъезде следов крови уже не было.

По факту избиения Валерия Фролова Ленинским РУВД возбуждено уголовное дело №0401102 по статье 206, часть 2 УК.

Следует отметить, что за несколько дней до поездки в Москву знакомые из правоохранительных структур предупредили Фролова о том, что на него и еще некоторых представителей оппозиции готовится нападение. И посоветовали генералу в срочном порядке нанять телохранителей.

В Москве Сергей Скребец и Валерий Фролов заметили, что за ними ведется слежка: во время переговоров в кафе их снимали на камеру четверо неизвестных в штатском.

*"Мы не в первый раз замечаем, что за нами следят,* — говорит Сергей Скребец. — *Когда в Москве мы обратились за консультацией в соответствующие органы, нам сообщили, что за нами следят не российские, а белорусские спецслужбы, которые незаконно работают на территории России. Когда этих людей попытались задержать, они скрылись".*

Сергей Скребец говорит, что на месте Фролова мог оказаться любой из членов депутатской группы "Республика": им угрожали не однажды.

*"Около года назад после подобных угроз Фролов нанял охрану,* — рассказывает Скребец. — *Три месяца назад меня тоже предупредили о бандитском нападении. Я сразу написал письмо председателю КГБ Беларуси Леониду Ерину. После этого у меня состоялась встреча с его заместителем Константином Своробом. Он спросил, какой именно помощи я хочу от КГБ: круглосуточной охраны или прослушивания телефонов. Поскольку наши телефоны и так бессовестно слушают, я ответил: "Хочу, чтобы в КГБ знали, что я знаю".*

*(Окончание на 2-й стр.)*

ПУЛЬС

## Будуць працягваць вучобу ў ВНУ Беларусі і замежжа

Выпускнікі незарэгістраванага Беларускага гуманітарнага ліцэя будуць працягваць вучобу ў ВНУ Беларусі і замежжа. Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАН паведаміў дырэктар навучальнай установы, вядомы беларускі кінарэжысёр і педагог Уладзімір Колас.

Паводле яго слоў, з 23 выпускнікоў ліцэя 17 будуць атрымліваць вышэйшую адукацыю ва універсітэтах Германіі (1), Літвы (5), Польшчы (4) і Чэхіі (7), а астатнія 6 юнакоў і дзяўчат — у розных ВНУ Беларусі. "Некаторыя з іх па выніках творчага конкурсу ўжо залічаны ў айчынныя ВНУ", — зазначыў У.Колас.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Святы кантрабандыстам не памочнік

Надзвычай выніковай для супрацоўнікаў Пастаўскага райаддзела міліцыі і аператыўнікаў мясцовай памежнай заставы аказалася праверка аўтамабіля "Мерседэс", затрыманага на мяжы з Літвой, у гарпасёлку Лынтупы. У машыне знаходзіліся дзве тоны бензіну і 340 пачкаў расійскіх цыгарэт з даволі недарэчнай назвай "Святой Георгий". Патрэбных дакументаў на перавозку гэтых грузаў у вадзіцеля не было, і міліцыянеры пачалі расследаванне. Неўзабаве шафёр прызнаўся, што загружаў машыну ў вядомым яму прыватным доме вёскі Ольшава Мядзельскага раёна. Хутка выявілася, што гаспадар падазронага дома прапісаны і жыве ў Лынтупах. Туды і накіраваліся следчыя. Абшукаўшы жытло прапісанага там чалавека, аператыўнікі знайшлі 158 пачкаў цыгарэт з імем папулярнага ў Расіі святога на суму 94 мільёны рублёў. Затрыманая кантрабанда часова перададзена на склад памежнай заставы ў Лынтупах.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# 1 июля в Минске был зверски избит депутат...

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Кстати, Скребец тоже является косвенно потерпевшим по данному делу. Буквально за полчаса до случившегося он отдал Фролову свой паспорт, чтобы тот передал его в посольство Великобритании для получения визы.

*"Теперь моя поездка в Эдинбург под вопросом, потому что в Беларуси дипломатические паспорта выдают только по личному распоряжению Лукашенко"*, — говорит он.

В милиции на вопрос: *"Угрожали ли Вам?"* Валерий Фролов ответил утвердительно.

*"В прошлом году Александр Лукашенко пообещал меня "порубить на капусту", заявив, что мне в стране места не будет,* — сказал Фролов. — *Наверное, то, что со мной случилось, следует расценивать как претворение президентских обещаний в жизнь.*

*В Беларуси почему-то угрожают и избивают только демократических журналистов, общественных деятелей, политиков, критикующих произвол, воровство и зажравшихся руководителей. Власть хочет всем нам закрыть рот, потому что боится правды.*

*Я, например, не припомню ни одного случая, чтобы "неизвестные" боевики в штатском избили кого-то из тех псевдополитиков, журналистов или депутатов, которые обслуживают власть и готовы лизать ей сапоги".*

Фролов говорит, что на этом провокации не закончатся.

*"Тот человек, который предупреждал о нападении, сообщил, что теперь из меня намерены сделать законченного алкоголика,* — говорит Валерий Дмитриевич. — *Есть препарат, который бросают в бокал со спиртным и потом человека со страшной силой тянет на пьянку. В конце концов человек, будучи не в силах совладать с собой, спивается. Теперь я не пью даже пива..."*

Валерий Фролов затрудняется однозначно ответить на вопрос, какая из восьми белорусских спецслужб замешана в его избиении.

*"Я знаю, что при прокуратуре существует некое секретное оперативное управление, которое непонятно чем занимается и на какие деньги существует,* — говорит Фролов. — *Один из руководителей данной структуры — мой бывший подчиненный, когда-то был моим доверенным лицом...*

*Однако в силовых структурах осталось много порядочных людей. И я знаю, что многим офицерам эта власть уже поперек горла... В этой связи я хочу обратиться к своим сослуживцам, друзьям-генералам — к министру спорта и туризма Беларуси Юрию Сивакову, начальнику Службы безопасности президента Юрию Жадобину, командующему внутренними войсками Валерию Гайдукевичу. Ребята, вы же офицеры! Я хорошо знаю каждого из вас. Уверен, вы прекрасно понимаете, что сегодня происходит в стране. Это не просто политический террор, это террор против гражданских прав и свобод нашего народа, который хотят лишить голоса, будущего, возможности достойно жить и зарабатывать. Нас хотят превратить в молчаливое стадо. Вы знаете, что с каждым из нас можно расправиться по одиночке, но вместе мы — мощная сила".*

Как известно, 21 июля в Минске планируется провести общенародное собрание с целью подведения итогов десятилетнего правления А.Лукашенко.

*"Мы придем на площадь имени Я.Коласа в Минске и напомним А.Лукашенко о его обещаниях "запустить" заводы и сделать жизнь белорусов счастливой. Мы приглашаем всех, кто устал от нищеты и бесправия, в этот день объединиться. Мы должны почувствовать себя народом, достойным уважения. И нас никому не запугать!"* — говорит Фролов.

**Марина КОКТЫШ.**

СКАНДАЛ

*Михаил РЕШЕТНИКОВ:*

# «Белорусы, приехавшие отдыхать в Туапсе, оказались жертвами беспредела...»

*Как уже сообщала "Народная воля", 18 июня таможенники города Туапсе арестовали пять белорусских автомобилей, находившихся на территории санатория "Белая Русь" Управления делами президента Республики Беларусь.*

*Очевидец событий, заместитель Республиканской партии труда и справедливости **Михаил РЕШЕТНИКОВ** говорит, что накануне сотрудники Туапсинской таможни просили у директора детского санатория "Белая Русь" путевки для оздоровления своих детей. Директор им отказал. Таможенники в сердцах пообещали устроить белорусам веселый отдых. И слово свое сдержали.*

"18 июня я увидел группу людей, которые жестикулировали около автомобилей, — рассказывает Михаил Васильевич. — Я подошел к ним, чтобы выяснить, в чем дело...

Как выяснилось, таможенники действовали по приказу полковника **Ивана Макаренко**, исполняющего обязанности начальника Туапсинской таможни. Три таможенника (Боев, Сошнев, третий не представился), никому ничего не объясняя, опломбировали все машины с белорусскими номерами и обнесли их колючей проволокой. Сделали они это потому, что якобы не смогли найти владельцев данных авто. Но объяснение не выдерживает никакой критики: как минимум три раза в день отдыхающих можно было встретить в столовой.

К тому же таможенники предупредили: тому, кто уедет из санатория на арестованной машине, грозит конфискация авто и 200-процентный штраф от оценочной стоимости автомобиля.

Таможенники встретились только с одним хозяином машины — жителем Мозыря господином Радионовым. У него изъяли сертификат техосмотра, талон о предупреждении и ключи от "Мерседеса". Когда Радионов попросил вернуть хотя бы ключи от машины, мол, мало ли что может случиться, таможенники категорически отказались. Самое интересное, что в протоколах об изъятии, где исправно расписался Радионов, не стоят подписи сотрудников таможни. Хотя бланк предусматривает, что рядом с фамилией нужно обязательно ставить подпись. То есть протоколы составлены явно с нарушением российского законодательства.

В "Белой Руси" в это время отдыхали первый заместитель председателя Мингорисполкома **Николай Ерохов** и жена заместителя председателя Палаты представителей **Владимира Коноплева.** Я попросил Ерохова подключиться к этому делу, однако он в срочном порядке должен был уезжать. А супругу Коноплева, которая могла позвонить своему мужу и выяснить ситуацию, когда разразился скандал, увезли в Сочи...

Я, как заместитель Республиканской партии труда и ***справедливости***, обязан был заняться этим делом...

Первое, что я сделал — позвонил и.о. начальника Туапсинской таможни г-ну Макаренко и попросил его разобраться, на основании чего были арестованы автомобили. Он ответил: на основании того, что белорусы не оформили декларацию временного ввоза.

И мы начали искать официальные документы, подтверждающие или опровергающие данную точку зрения.

Мне пришлось поднять все свои связи в таможне. Я связался с председателем Государственного таможенного комитета России генерал-полковником **Ваниным.** Его помощник по электронной почте прислал нам письмо от 25 июня 2002 года №01-06/24885, где написано, что оформление временного ввоза не распространяется на граждан Республики Беларусь.

Мы нашли даже документы внутреннего таможенного пользования ВКЦ 663/1902. Там на вопрос *"Подлежат ли декларированию и дальнейшему таможенному оформлению (без учета временной регистрации) зарегистрированные на территории Республики Беларусь транспортные средства, временно ввозимые через российско-белорусский участок Государственной границы физическими лицами, постоянно проживающими на территории указанной республики?"* есть четкий ответ, датированный 30 марта 2004 года: *"Поскольку в отношении упомянутой в вопросе категории товаров отменено таможенное оформление на российско-белорусском участке Государственной границы, декларирование временного ввоза, а также продление сроков временного ввоза производятся при обращении указанного лица в уполномоченные в соответствии с приказом ГТК России от 20.01.2004 г. №55 "Об установлении компетенции таможенных органов по совершению таможенных операций в отношении товаров определенного вида, перемещаемых физическими лицами" (зарегистрирован Минюстом России 04.02.2004 г., рег. №5526) таможенные органы.*

*Декларирование временного ввоза транспортных средств производится на основании письменного заявления ввезшего автомобиль лица".*

А в приказе ГТК России №55 от 21.01.2004 написано, что *"физические лица, постоянно проживающие на территории Республики Беларусь, могут временно ввозить при следовании через российско-белорусский участок таможенной границы РФ 1 автомобиль, зарегистрированный (в том числе временно) на территории Республики Беларусь и имеющий государственный регистрационный знак Республики Беларусь, на срок не более 1 года включительно, без уплаты таможенных пошлин и налогов при условии, что в течение этого срока такое транспортное средство не будет использоваться для производственной или коммерческой деятельности, отчуждаться, передаваться в пользование, владение либо распоряжение другим лицам".*

Кстати, пересекая белорусско-российскую границу, я, словно что-то предчувствуя, оформил на свою машину страховку и переспросил таможенника, нужно ли оформлять временный ввоз. Ответ был отрицательный.

Последняя встреча с туапсинскими таможенниками у меня состоялась 25 июня. Они вызвали меня для дачи показаний. Я пришел с адвокатом, которого вынужден был нанять в Туапсе. С меня взяли объяснение, в котором я написал, что буду давать показания лишь в присутствии консула, и сказал, что в поисках правды намерен дойти до суда.

И.о. начальника Туапсинской таможни, пригласивший меня с заместителем директора санатория "Белая Русь" **Русланом Куадже** и владельцем одной из арестованных машин **Сергеем Казачком** в свой кабинет, достал из сейфа бутылку. Предложил выпить и забыть обо всем, что произошло с одним условием: мол, мы уничтожаем все протоколы, если белорусы признают свою вину в том, что не оформили таможенный ввоз. Кстати, из пятерых пострадавших только Радионов написал такое покаянное письмо. Когда он попросил таможенников оформить ему временный ввоз, они сделали удивленные глаза и спросили: "А зачем он вам?"

Надо отметить, что 16 июня группа этих таможенников уже появлялась на территории санатория "Белая Русь". Они просили, чтобы директор детского санатория предоставил для их детей путевки. Директор сказал, что теперь оздоровление в санатории проходят белорусские дети и лишних путевок просто нет. Таможенники в сердцах пообещали, что покажут всем веселый отдых. И через два дня появились на территории санатория с протоколами...

Самое ужасное в этой истории, что мы остались один на один со своими неприятностями. Нас не защитил ни один белорусский чиновник, работающий в России. Хотя они ОБЯЗАНЫ это делать.

Когда все случилось, я сразу нашел консула Беларуси в Краснодарском крае **Евгения Войтовича** и посвятил его во все подробности. Он сказал, что улетает в Минск на экономический симпозиум и ничем помочь не может. Я попросил у него телефоны белорусского посольства в Москве. Чрезвычайного и Полномочного Посла **Владимира Григорьева** я не застал, но общался с человеком, который назвался его заместителем **Вячеславом Стрельцовым.** Он обещал помочь. Но, к нашему ужасу, сотрудники посольства, не разобравшись и не вникнув в ситуацию, признали вину граждан Беларуси. И это при том, что у нас на руках были все документы!!!

Тогда мы по электронной почте написали письмо **Александру Лукашенко.** Его подписали не только владельцы машин, но и их жены и дети.

*"Просим Вас обратить самое пристальное внимание на данную проблему, так как наш отдых превратился в сущий кошмар. К сожалению, МИД Беларуси, посольство Беларуси в России, консульство Беларуси в Краснодарском крае не приняли экстренных мер для защиты белорусских граждан от беззакония, сложившегося на территории России, хотя мы неоднократно обращались к ним по этому поводу".*

Отпуск был безнадежно испорчен. И нерастворимый осадок остался. Ведь никто из этих пятерых граждан ничем противозаконным не занимался. Белорусы, приехавшие отдыхать в Туапсе, оказались жертвами беспредела... Слова о том, что у белорусов на территории России такие же права, как у россиян, на деле остаются только словами..."

Напомним, что в интервью "Народной воле" первый заместитель начальника Туапсинской таможни по правоохранительной работе **Алексей Щедрин** заявил, что в данном случае имела место *"элементарная неинформированность белорусов о том, что с 1 января 2004 года изменилось законодательство, регламентирующее перемещение временно ввозимых транспортных средств лицами, постоянно проживающими на территории Республики Беларусь. Теперь у белорусских граждан появилась обязанность производить таможенное оформление временного ввоза транспортного средства".*

*"Возникает вопрос: если россияне ужесточают въезд белорусов в Россию, почему Государственный таможенный комитет Беларуси не вводит подобные правила и не зарабатывает на этом деньги, не пополняет бюджет Республики Беларусь?"* — говорит Михаил Решетников.

Начальник управления по санаторно-курортной работе Управления делами президента Республики Беларусь **Николай Якимчук**, который давал поручение юристам Управления делами президента разобраться в ситуации, говорит, что, согласно письму ГТК России *"О государственной регистрации транспортных средств из Республики Беларусь"* от 26.02.2004 г., белорусы при пересечении белорусско-российской границы все-таки должны оформлять таможенный ввоз.

Данный документ гласит, что регистрация автомобилей производится по месту временного пребывания или постоянного проживания на территории России лица, ввезшего автомобиль. *"Оформление при въезде на территорию Российской Федерации удостоверения ввоза транспортного средства... должно производиться при обращении в уполномоченные приказом ГТК России №55 от 21.01.2004 таможенные органы"* (таможенные посты на Смоленской, Великолукской, Брянской и Псковской таможнях).

*"На мой взгляд, это недружественный шаг в отношении Беларуси,* — говорит Николай Якимчук. — *И до случая в Туапсе нас никто не информировал о существовании подобного документа, иначе мы предупреждали бы о новых правилах всех, кто едет отдыхать в санаторий "Белая Русь". Я обеспокоен данной ситуацией, поскольку страдает и репутация санатория"...*

*"Страдает не только репутация санатория, но и белорусские граждане,* — говорит один из очевидцев событий белорус **Петр Скок,** тоже приехавший в санаторий "Белая Русь" на своем автомобиле. — *Отпуск был безнадежно испорчен. Хочу заметить, что подобное происходит не только в Туапсе. Я не раз слышал от друзей, которые часто ездят в питерском направлении, что сотрудники российского ГИБДД требуют у белорусов удостоверение о временном ввозе, подразумевая взятку в размере около 15 долларов. Хотя таможенники на границе беспрепятственно пропускают белорусов. Словом, чтобы тебя не трогали в России, наверное, нужно быть гражданином России".*

*"Сегодня с разных высоких трибун много говорится о консолидации белорусского общества,* — говорит Михаил Решетников. — *Но если мы не в состоянии защитить даже этих пятерых человек, то о каком объединении вообще может идти речь?*

*Не дело посольства и консульства разбираться, кто прав, а кто виноват. Если вопрос касается граждан Беларуси, попавших в беду на территории любого государства, в том числе и России, то они должны по всем международным стандартам в течение суток прибыть на место случившегося и оказать гражданину Беларуси всяческое содействие, моральную и правовую поддержку. Цивилизованное общество, например, американское, всегда стоит на защите интересов своих граждан. А к чему на примере этого инцидента можем прийти мы?.."*

**Марина КОКТЫШ.**

РАКУРС

# Скажонае аблічча Святой Еўфрасінні

Яе называюць перлінаю не толькі Полацка, але і ўсёй Беларусі. Гаворка ідзе пра Спаса-Прэабражэнскую царкву, якая пабудаваная па замове Святой Еўфрасінні ў сярэдзіне XII стагоддзя выдатным полацкім дойлідам Іаанам.

Спаса-Прэабражэнская царква — адзіны храм у Беларусі, які прастаяў, а дакладней — выстаяў, звыш васьмі стагоддзяў, захаваўшы амаль цалкам унікальныя фрэскі XII стагоддзя. Падкрэсліваю — АДЗІНЫ. Яны і сёння хвалююць сваёй адухоўленасцю, псіхалагічнай глыбінёй. Не менш каштоўны роспіс храмаў Барыса-Глебскага манастыра ў Полацку пахаваны разам са сценамі ў 20-я — 30-я гады.

Аднак адзіная ў сваім родзе архітэктурна-мастацкая каштоўнасць Беларусі нажыла за васьмісотгадовую гісторыю нямала праблем. А наша дзяржава дагэтуль так і не ўзяла гэты помнік дойлідства пад сваю дзейсную апеку. Цудоўныя фрэскі XII стагоддзя былі доўгі час схаваны пад слоем тынкоўкі, нанесенай на сцены падчас рэстаўрацыі ў 1832—1835 гадах і ў 1850 годзе (рабілі рэстаўрацыю расійскія ўлады). Часткова яны былі раскрытыя толькі ў 20-я і 40-я гады мінулага стагоддзя. Зараз іх раскрыццём і рэстаўрацыяй вось ужо 12 год у адзіночку займаецца мастак-рэстаўратар Уладзімір Ракіцкі. Але работы вядуцца эпізадычна, бо Міністэрства культуры фінансуе іх у мізэрных аб'ёмах. Рыштаванні ў храме будуць стаяць яшчэ доўга. Рэстаўрацыя фрэсак — не адзіны клопат, не адзіная праблема. Магчыма, нават пачынаць трэба было б не з яе.

Справа ў тым, што, хоць сцены храма Спаса захаваліся, ягонае архітэктурнае аблічча шмат у чым страчанае. Пры рэканструкцыях, якія неаднаразова ладзілі расійцы ў XIX стагоддзі, выдатны ўзор Полацкай архітэктурнай школы зменены да непазнавальнасці і з унікальнага аўтарскага твора перароблены ў шэраговую пабудову, якая сваімі формамі нагадвае звыклы для расійскага вока храм Спаса-на-Нерлі. Так, пад вокнамі "рэстаўратары" знішчылі рэльефную ў чатыры рады цэглы аздобу — броўкі. Шаломападобны купал зменены на тыповую "цыбуліну". У цэнтры абсіды закладзена акно. Экспедыцыя Акадэміі архітэктуры СССР яшчэ ў жніўні 1946 года высветліла, што вуглы ва ўсходняй сцяне храма першапачаткова фланкіраваліся лапаткамі з паўкалонамі. Пры "рэстаўрацыі" яны былі проста знішчаны. Храм меў паўднёвы і паўночны парталы.

Але галоўнае — раней храм выглядаў закончанай прыступкавай кампазіцыяй, меў дынамічную пабудову. У гэтым і было наватарства дойліда Іаана. Ён першым скарыстаў узоры какошнікаў на гранях пастаментаў. Закамары і какошнікі мелі кілепадобнае завяршэнне. Над вугламі пастамента былі дыяганальныя какошнікі таксама кілепадобнай формы. Цяпер гэтага няма, і будынак храма ўяўляе сабою проставугольны паралелепіпед.

Трэба памятаць, каму прысвяціў свой твор дойлід Іаан: князёўне, якая свядома адмовілася ад зямных даброт, ад улады, ад жаночага шчасця. Духоўны подзвіг Святой Еўфрасінні натхняў дойліда на стварэнне шэдэўра. Знакам пашаны да святой заступніцы Беларускай зямлі было б аднаўленне храма ў ягонай аўтэнтычнай прыгажосці.

Вядомы гісторык Л.Аляксееў называе пабудову Спаскага храма буйнейшай падзеяй у Полацкай і ўсёй старажытнарускай архітэктуры. Ён знамянуе пачатак вызвалення ад культурніцкага ўплыву Візантыі, які на той момант ужо пачынаў успрымацца нашымі продкамі як гнёт. Гэты помнік уласна Полацкай архітэктурнай школы даў пачатак дынамічнай набудове храмаў у Смаленску, Ноўгарадзе, Разані, Пскове, Чарнігаве. Так, у XVIII стагоддзі адбудаваны пасля знішчэння падчас Паўночнай вайны полацкі Сафійскі сабор паклаў пачатак новаму архітэктурнаму напрамку — Віленскаму (ці інакш — Беларускаму) барока.

Такім чынам, аднаўленне першапачатковага выгляду храма Спаса ў Полацку — пытанне надзённае. Але падыходзіць да справы трэба грунтоўна. Ёсць варыянты рэканструкцыі храма, зробленыя вядомымі архітэктарамі — беларускімі і расійскімі. Яны адрозніваюцца ў дэталях. Доследы трэба працягваць, пакуль не будзе знойдзена адзінае правільнае рашэнне, і толькі потым распачынаць будаўнічыя работы па аднаўленні страчаных граняў беларускага адаманту.

У гэтай сувязі паўстае пытанне: а ці не зарана знятая з фрэсак тынкоўка, якая ахоўвала іх ад шкоднага ўздзеяння? Захаванне фрэсак зараз і пасля заканчэння рэстаўрацыі — сур'ёзная праблема. Гэты храм — не музей, ў якім можна было б захоўваць адпаведны тэмпературны рэжым і рэгуляваць наплыў наведвальнікаў. Храм Спаса — дзеючы. У ім увесь час гарыць мноства свечак, копаць ад якіх кладзецца на фрэскі. Будынак маленькі, цесны — 8 на 12 метраў. Калі ў храме служба, дзверы адчынены насцеж, і ў мароз, і ў слоту. Які мусіць быць тэмпературны і вільготны рэжым, каб фрэскі захоўваліся стагоддзямі, ніхто пакуль не скажа. Бо такія доследы не праводзіліся. Магчыма, спатрэбіцца шкляны тамбур, цеплавая заслона.

Рэстаўрацыя Спаса-Прэабражэнскага храма была прадугледжаная Пастановаю Савета міністраў БССР ад 10 кастрычніка 1989 года. Меркавалася правесці яе ў 1990—2000 гадах. Але пра гэта ўжо забылі. Скажонае да непазнавальнасці аблічча славутага полацкага храма дагэтуль тыражуецца на паштоўках, у фотаальбомах, у творах выяўленчага мастацтва і на сувенірных вырабах. Колькі ж гэта будзе доўжыцца! Надышоў час адрадзіць перліну беларускага дойлідства ў яе першароднай прыгажосці, якой любавалася сама Святая Еўфрасіння; прыгажосці, якая на працягу шасці стагоддзяў радавала людское вока, пакуль "рэстаўратары" XIX стагоддзя неператварылі унікум у звычайную культавую пабудову.

*Так выглядаў Спаса-Прэабражэнскі храм пры жыцці Святой Еўфрасінні Полацкай.*

**Віктар ЛЕАНЕНЯ, жыхар Полацка.**

## Каментарый

*Праблема, якую агучыў сп. Леаненя, існуе не адно стагоддзе. Архітэктуру прынята называць каменным летапісам і застылай музыкай. І заўжды хапала ахвочых "адрэдагаваць" гэты летапіс у адпаведнасці з пэўнай палітычнай ці ідэалагічнай кан'юнктурай; так бы мовіць, падагнаць партытуру, створаную для аргана ці сімфанічнага аркестра, пад стандарт балалайкі ці губнога гармоніка.*

*Пакуль існавала Беларуская дзяржаўнасць (Полацкая Русь з прылеглымі абшарамі, Вялікае княства Літоўскае, федэратыўная Рэч Паспалітая), наша культура развівалася ў агульнаеўрапейскім рэчышчы, захоўваючы пры гэтым нацыянальную адметнасць. Трэба шчыра прызнацца, што тады роля першай скрыпкі еўрапейскага аркестра належала не нам. Але статус Беларусі (Літвы) у Еўропе ўсё адно быў больш прыстойным, чым той, які мы мелі ў пазнейшы час — у XVIII—XX стагоддзях. Бо, што ні кажы, а для разумнага чалавека заўжды лепей быць другім у горадзе, чым першым у вёсцы.*

*Фармальна статус Беларусі ў складзе Расіі быў даволі высокім. Мы ўваходзілі ў элітную трыяду "Вялікая, Малая і Белая", між тым як астатнія народы імперыі афіцыйна лічыліся "іншародцамі". Але, трапіўшы ў "пракруставa ложа" Расійскай імперыі, наша краіна была вымушана скукожыцца і ў палітычным, і ў культурным сэнсе. Каб, так бы мовіць, не вытарквалася з шэрагу. Буйнамаштабнаму "рэдагаванню" падвергся і наш "каменны летапіс". Руйнаваліся гарадскія ратушы, каб не нагадвалі месцічам пра "залатую пару" Магдэбургскага права; у пабудаваныя ў стылі готыкі, рэнесансу і барока храмы каталікоў і уніятаў засялялася Маскоўскае праваслаўе, і храмы абрасталі шатрамі і "цыбулінамі", ператвараліся ў цэрквы-"мураўёўкі" (назва "ў гонар" віленскага генерал-губернатара, ката паўстання 1863 года). У Беларусі закрываліся навучальныя ўстановы з універсітэцкім статусам, а замест іх ствараліся царкоўна-прыходскія школы (што не здолела зрабіць руская зброя, зробіць руская школа, — гаварыў губернатар Мураўёў).*

*Тое, што здарылася ў XIX стагоддзі з полацкім Спаса-Прэабражэнскім храмам, цалкам адпавядае агульнай карціне культурнага заняпаду краю. Аблічча унікальнага помніка мясцовага дойлідства, адзін з найбольш шанаваных беларусамі храмаў, які цалкам адпавядаў разуменню "нацыянальная святыня", было свядома спрымітызавана, спрафанавана з мэтаю ператварэння апірышча нацыянальнага духу ў знак маскоўскай палітычнай прысутнасці. Нездарма перароблены храм, так падобны на кепскую копію храма Спаса-на-Нерлі. Гэтай прафанацыяй была абражаная і Святая Еўфрасіння, чый полацкі (беларускі) патрыятызм не ўпісваўся ў ідэалагічныя каноны імперыі.*

*Відаць, няма патрэбы падрабязна тлумачыць, чаму сёння тыя, хто прымае палітычныя рашэнні, не спяшаюцца выконваць пастанову аб вяртанні храму ягонага аўтэнтычнага аблічча, прынятую іхнімі папярэднікамі яшчэ ў 1989 годзе. Досыць сказаць, што храм, такі як ён ёсць зараз, задавальняе РПЦ, якая чамусьці адчувае сябе ўтульна толькі ў "мураўёўках".*

*Аднак жыццё не канчаецца сённяшнім днём. Прыйдзе час, і ў грамадства дойдуць рукі і знойдуцца грошы на рэстаўрацыю прыгажосці і аднаўленне гістарычнай справядлівасці. Па магчымасці гэты час трэба прыспешваць. Пра гэта і ліст сп. Леанені з Полацка.*

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# Земляки поздравили Беларусь

***Только Борис Моисеев не вышел на импровизированную сцену столичного стадиона «Динамо». Говорят, что песни этого российского исполнителя не захотели слушать белорусские ветераны***

По официальной версии, **Борис Моисеев** задержался в Могилеве. Днем 3 июля он выступал перед жителями своего родного города и не успел на вечерний концерт в Минск.

В кулуарах говорили, что на сцену столичного стадиона "Динамо" уроженца Могилева не пустили белорусские ветераны. Они написали письмо с просьбой снять выступление Моисеева с концерта. А в такой праздничный день, как день освобождения Беларуси от фашистских захватчиков, перечить ветеранам никто не посмел. Организаторы шоу — канал ОНТ — пытались уладить ситуацию, но тщетно. Перед артистом извинились, а зрителей лишили удовольствия увидеть Бориса Моисеева. Правда, в праздничную ночь его можно было лицезреть в столичном "Медисон-клубе".

*Кузьмин охотно позировал фотокорреспондентам. На фото — с белорусскими байкерами, которые очень оживляли праздник.*

Тем не менее отсутствие Моисеева не омрачило атмосферу праздника. Шоу "Земляки поздравляют Беларусь" удалось! Пожалуй, из всех праздничных мероприятий 3 июля это был единственный проект, лишенный пафоса и спекуляций на военную тему. Более 20 тысяч зрителей, пришедших на стадион, не пожалели, что предпочли концерт российских звезд другим мероприятиям.

Концерт был хорошо организован. Никаких технических проволочек. Если не считать небольших заминок между выступлениями артистов. Дело в том, что они пели вживую, и каждый коллектив настраивал музыкальные инструменты "под себя". Нашей публике, воспитанной на российской попсе, поющей под фонограмму, было даже интересно посмотреть, как артисты готовятся спеть по-настоящему, а не просто открывать рот в такт звучащей музыке.

Все, что происходило на сцене, было хорошо видно с любой точки стадиона. Рядом со сценой, оформленной в стиле хайтек — то есть никаких украшений, только хром, никель и море света, установили два огромных экрана.

На футбольном поле организовали партер. На газон настелили покрытие, которое пропускает ультрафиолет и не портит траву, и поставили стулья. Первые три ряда партера были отведены для VIP-гостей.

Прямо напротив сцены разместились **Максим Мирный** со своей невестой **Ксенией Рубченя**, отцом **Николаем Мирным** и братом **Петей**. Мирный как всегда был скромен и охотно раздавал автографы любителям тенниса.

За несколько минут до концерта в партере появился председатель КГБ **Леонид Ерин** в компании очаровательной спутницы. Правда, Леонид Тихонович не досмотрел шоу до конца, после полуночи вместе со своей спутницей он покинул стадион.

Почему-то не на VIP-местах расположилась председатель Центризбиркома **Лидия Ермошина**. Она скромно села в сторонке, почти на "местах для поцелуев". Зато в центре внимания были ведущие ОНТ — **Наталья Немогай, Александр Аверков.** Недалеко от них разместилось руководство канала — **Григорий Кисель** с семьей и **Юрий Козиятко.**

Но в этот день, конечно, все внимание зрителей было приковано к артистам. Они одинаково тепло встречали и **Игоря Корнелюка, и Алену Свиридову, и Анжелику Агурбаш.** Корнелюк сразил всех своим хорошим белорусским языком. А Агурбаш — внешним видом. Первая белорусская красавица на восьмом месяце беременности, но это не помешало ей приехать в Минск. "Ждем мальчика", — говорила счастливая Лика за кулисами.

Наверное, больше всего аплодисментов сорвал **Владимир Кузьмин**. Но на сцене рок-музыкант вел себя чересчур скромно. То ли он смущался, то ли на то была другая причина, но он много оговаривался. Правда, когда начинал петь, зрители видели привычного Кузьмина: энергичного, эксцентричного, заводного. В Минск Кузьмин приехал со своей молодой женой. И как только рядом с парой оказывались фотокорреспонденты, тут же начинал целовать и обнимать свою вторую половину.

Не ушли без цветов со сцены **Диана Арбенина и "Ночные снайперы", группа "Би-2"**. Закончился концерт далеко за полночь выступлением **"Машины времени"**.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

СУСТРЭЧА З ЦІКАВЫМ СУБЯСЕДНІКАМ

# Пра «Песняроў», Галубка і «Вечны рухавік»

*Гутарка **Мікалая Дзелянкоўскага** з мастаком, акцёрам і спеваком* ***Анатолем НАЛІВАЕВЫМ***

Пазнаёміліся мы больш за дзесятак гадоў таму, калі Анатоль Аляксандравіч Налівaeў завітаў у рэдакцыю часопіса "Беларуская мінуўшчына", першы нумар якога толькі што пабачыў свет. Прынёс слайды, асабліва спадабаўся стары млын. Спадабалася і гутарка з аўтарам, яго погляды, развагі, вывады. За шмат гадоў (мы жывём у суседніх дамах) у нас было нямала сустрэч, дзяліліся ўражаннямі, меркавалі, спадзяваліся. Сёе-тое з нашых размоў хачу нагадаць чытачам.

**— Вы спявак, акцёр, мастак, грамадскі дзеяч...**

— Ну, грамадскі дзеяч загучна сказана...

**— Міналі дзесяцігоддзі, Вы заставаліся верным дзвюм культурам — беларускай і яўрэйскай.**

— Так, у асноўным — дзвюм. Няблага ведаю рускую. Пэўныя дачыненні маю да татарскай і цыганскай. Ва ўсякім разе, паважаю іх. Паглядзіце, хіба можна не паважаць цыганаў, якія захавалі і мову, і песні.

**— Беларусы ў параўнанні з цыганамі, мне здаецца, горш выглядаюць у тым, што датычыцца мовы, хаця ўмовы для захавання яе ў іх больш спрыяльныя хаця б таму, што беларусаў мільёны, жывуць яны на сваёй зямлі, маюць сваю пісьменнасць, а цыганы качуюць — сёння тут, заўтра там.**

— Беларусам трэба мацней хацець людзьмі звацца. Аднак усё ж у беларусаў вельмі вялікая і цудоўная гістарычная спадчына ўвогуле і музычна-песенная ў прыватнасці. Беларуская мелодыя такая багатая. І распрацаваная добра. Генадзь Цітовіч запісаў каля 3000 народных мелодый. Больш за 2000 песень запісаў Раман Шырма. Заснаваныя імі Дзяржаўны народны хор і Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла — неацэнны набытак. А чаго варты Забэйда-Суміцкі як выканаўца! Ды хіба злічыш шматлікіх рупліўцаў на ніве беларускай музычнай культуры! Між іншым, на мяне дужа паўплываў Забэйда-Суміцкі, з ім я сустракаўся. Пасябраваў з Новікам-Пеюном, ён уразіў не толькі сваёй творчасцю — вершамі і песнямі, але і грамадзянскай мужнасцю.

**— У сувязі з гэтым, як ацэньваеце "Песняроў"?**

— Мулявін падхапіў заходнія традыцыі і навацыі. У яго час вельмі папулярныя былі ў свеце "Бітлзы". Стваральнік "Песняроў", следуючы і творча ставячыся да іх, глыбока засвоіўшы беларускія мелодыі, на высокім узроўні паказаў усяму свету беларускую музычную культуру, услявіў яе. Невыпадкова многія сусветныя крытыкі ставілі песняроў вышэй за "Бітлзаў". Шкада, што выдатныя дасягненні, традыцыі нашых славутых калектываў, кампазітараў, спевакоў, узоры народнага фальклору сёння, можна сказаць, у заняпадзе. На сцэну вылезла безгустоўная папса.

**— У нашых размовах мы неаднойчы ўзгадвалі яе, Вы абураліся ёй.**

— І сёння абураюся. Не разумею, што знаходзіць моладзь у прымітыўнай музыцы, бязглуздых словах песень, у безгалосых выканаўцах. Ідзе ўсё гэта, безумоўна, ад недастатковай культуры маладога пакалення, ад бездухоўнасці.

**— Як я разумею, таму і стварылі Вы Гасцёўню Галубка? Давайце нагадаем чытачам пра яе задачы і справы.**

— Гасцёўня пачала дзейнічаць у 1982 годзе. Я тады пісаў партрэты, у тым ліку Максіма Танка. Я сказаў яму пра ідэю Зоські Верас, партрэт якой таксама пісаў, аднавіць "Беларускую хатку". Яўген Іванавіч, тады старшыня Саюза пісьменнікаў, параіў, што будзе лепш, калі стварыць Гасцёўню Галубка, які так шмат зрабіў для адраджэння беларускага тэатра, але імя якога амаль забыта. Галубок быў рэпрэсіраваны і загінуў у 1937 годзе. Танк прыцягнуў да справы Адама Мальдзіса, Уладзіміра Караткевіча. Адгукнуліся Саюз кампазітараў і Саюз мастакоў. У маім доме знайшлося памяшканне. Цэнтр трох творчых Саюзаў павінен быў эстэтычна выхоўваць моладзь, даносіць да вучняў здабыткі беларускай гісторыі, культуры, а пасля, па задуме Яўгена Іванавіча, ператварыцца ў музей Галубка.

**— Так і стала?**

— У 1991 годзе ў Траецкім прадмесці адкрыта Літаратурна-мастацкая гасцёўня ім. Галубка пры Міністэрстве культуры. У нас сустракаліся з моладдзю Максім Танк, Васіль Быкаў, Кандрат Крапіва, Алесь Адамовіч, Ніл Гілевіч, Ігар Лучанок, Юрый Семяняка, Уладзімір Алоўнікаў і яшчэ шмат хто з вядомых людзей.

**— Анатоль Аляксандравіч, ці паўплываў Уладзіслаў Галубок на Вашу прыхільнасць да тэатра?**

— Тэатр у Беларусі даўно стаў на ўласныя ногі. Прыкладна тры вякі таму з'явіліся тэатры ў Нясвіжы, Слоніме, Шклове. 24 музычна-драматычныя тэатры ў даўнія часы мелі сваю, нацыянальную адметнасць. Яны былі музычна-драматычныя, шырока выкарыстоўвалі беларускія мелодыі, песні, танцы, жарты.

Галубок працаваў у лепшых народных традыцыях. Ён — стваральнік сучаснага беларускага тэатра, першы народны артыст Беларусі. Ёсць з каго браць прыклад. І калі мне прапанавалі, я пагадзіўся ўдзельнічаць у спектаклі "Перпетуум мобіле" ("Вечны рухавік") у Рускім драматычным тэатры. Больш дзесяці сезонаў ставіцца спектакль, мае нязменны поспех у мінчан. Яго і ў Маскве вельмі добра прынялі. У мяне ёсць салідная бібліятэка, шмат запісаў даўніх песняў. Іх выкарыстоўваю і ў спектаклі, і ў канцэртах. Вось і нядаўна пабыў у Барысаве, толькі што вярнуўся з Баранавічаў, зноў збіраюся ў дарогу.

**— Анатоль Аляксандравіч, я адчуваю сябе ў Вашым пакоі нібы ў музеі ікон. Усе сцены, аж да столі, завешаныя імі.**

— Маляваць іконы — яшчэ адно маё захапленне. Хачу, каб людзі, гледзячы на іх, зразумеўшы іх сутнасць, духоўна ўзбагачаліся — у добрым, высакародным сэнсе гэтага слова. Каля сотні іх я аддаў у храмы бясплатна.

**— А як асноўная работа?**

— Шмат дзесяцігоддзяў займаўся роспісам. Працаваў у Палацы спорту, у касцёле на плошчы Свабоды. Афармляў актавую залу ў школе міліцыі, залы ў Доме ўрада. Роспісы, мастацкія афармленні палацаў, дамоў культуры, рэстаранаў, іншых будынкаў — вось мая асноўная работа. Працаваў з сынам Андрэем у Жыровічах Слонімскага раёна.

**— Якія праблемы, акрамя ўжо закранутых, Вы лічыце сёння важнымі?**

— З'ездзіў я на рынак і зноў жахнуўся. Прадаўцоў ледзь не больш, чым пакупнікоў. А гэта значыць, што народ збяднеў і ўсё бяднее. Не мае за што купляць самае неабходнае — прадукты харчавання. А без іх няма здароўя. Не выпадкова колькасць жыхароў у Беларусі з года ў год памяншаецца. Гэта трагедыя.

Другая праблема: засілле чынавенства. Чыноўніку не трэба народнага дастатку. Чым горш людзям, тым лепш чыноўнікам, бюракратам. Наша бюракратыя цесна звязана з расійскай, якая праз нашу дыктуе Беларусі сваю волю. Пра гэта пераканаўча сведчыць "газавая труба", наша залежнасць ад іншых расійскіх энерганосьбітаў, у першую чаргу ад нафты. Трэцяя праблема: урад не дае творча разгарнуцца народу, праявіць ініцыятыву. Яго патэнцыяльныя магчымасці, па вызначэнні спецыялістаў, выкарыстоўваюцца прыкладна на дваццаць працэнтаў.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

АЛІМПІЯДА-2004

*Іван ІВАНКОЎ:*

# «Чым больш мы будзем гаварыць пра медалі, тым менш мы будзем іх атрымліваць»

*На чарговай прэс-канферэнцыі ў Алімпійскім прэс-цэнтры "Belswiss-bank" журналістам была прадстаўлена алімпійская каманда па спартыўнай гімнастыцы.*

На Алімпіяду ў Грэцыю паедуць тры гімнасты: славуты **Іван Іванкоў**, **Дзяніс Савянкоў** — апошняе важкае дасягненне ў кар'еры Дзяніса датуецца 2004 годам, калі ён стаў сярэбраным прызёрам чэмпіянату Еўропы ў камандных спаборніцтвах, і **Юлія Тарасенка,** якая можа пахваліцца трэцім месцам на першынстве кантынента 2003 года.



Як заявіў галоўны трэнер мужчынскай каманды па спартыўнай гімнастыцы Віктар Дайлідаў, ён не здымае з сябе віны за тое, што зборная Беларусі не трапіла на Алімпіяду-2004 у камандных спаборніцтвах: "Можна шмат гаварыць пра прычыны "непападання" нашай каманды на Алімпіяду: траўмы і гэтак далей, але я з сябе віны за гэта не здымаю".

Як прызнаўся Віктар Дайлідаў, Беларуская асацыяцыя спартыўнай гімнастыкі фарміравала склад сваіх прадстаўнікоў у Афінах па ўласным меркаванні, бо ліцэнзіі, якія заваявалі нашы спартсмены, не з'яўляюцца іменнымі. *"Іван Іванкоў заслужыў права паехаць на Алімпіяду ўсім сваім жыццём, сваім стаўленнем да гімнастыкі. Я ведаю гэтага спартсмена ўжо 24 гады і скажу вам, што Іванкоў становіцца дужэй тады, калі ў яго перастаюць верыць. Менавіта ў такія моманты Ваня паказвае добры вынік".* І сапраўды, колькі ходзіць чутак аб тым, што надышоў час Вані развітвацца са спортам. Па словах спартсмена, з яго здароўем усё нармальна і ён гатовы выступаць далей, хаця і не загадвае наперад і не робіць ніякіх "медальных" прагнозаў для гімнастаў на будучай Алімпіядзе: *"Усе вельмі хочуць ад нас медалёў, усе ставяць перад намі задачы, але не ўсе разумеюць, наколькі гэта няпроста. Мне здаецца, што чым больш мы гаворым пра медалі, тым менш мы будзем іх атрымліваць. Нічога я не загадваю і нічога не абяцаю. Так, рыхтуюся, так, хочацца, так, будзем змагацца. Не проста змагацца, а нават біцца".*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ЗАПРАШАЕМ У ПАДАРОЖЖА
11 ЛІПЕНЯ ПА МАРШРУЦЕ:
Менск–Лаздуны–Іўе–Жамыславы–Суботнікі–Геранены–Тракелі–Беняконі–Гайцюнішкі–Менск.
16-19 ЛІПЕНЯ
Кракаў–Вялічка
ТЭЛ: (017)232-54-58, 622-57-20 (Зьміцер)

Рекламу не обязательно доставлять в редакцию, ее можно вместе с гарантийным письмом заказать по факсу:
(017) 206-69-04.
Телефон для справок: (017) 206-69-06.

**6**
ліпень

**АЎТОРАК**
Усх. 4.47 Зах. 21.42
Даўж. дня 16.55
Апошняя квадра
9 ліпеня

**140 гадоў** з дня нараджэння А.М. Гарэцкай (1864—1935), беларускай народнай спявачкі, маці М. Гарэцкага

**95 гадоў** з дня нараджэння С.І. Грыцаўца (1909—1939), двойчы Героя Савецкага Саюза, ураджэнца в. Бараўцы Баранавіцкага раёна

ВАНДРУЕМ РАЗАМ!

## Заўтра мы аб'явім пераможцу

*У заўтрашнім нумары "Народнай волі" будзе аб'яўлены пераможца першага этапа конкурсу **"Вандруем разам"**, які арганізаваны рэдакцыяй нашай газеты сумесна з турыстычнай кампаніяй "Альтус-плюс". Акрамя гэтага будуць абвешчаны ўмовы другога этапа конкурсу.*

Пакуль толькі скажам: конкурс выклікаў пэўную цікавасць сярод нашых падпісчыкаў — для ўдзелу ў першым этапе паступіла 35 разнастайных пытанняў па гісторыі Беларусі. Таму арганізатарам ёсць над чым падумаць.

Нагадаем, што пераможца атрымае права на бясплатную вандроўку па адным з маршрутаў, якія прапаноўвае сваім кліентам "Альтус-плюс". Не прапусціце заўтрашні нумар!

А тым, хто не браў удзелу ў конкурсе, паведамляем, што бліжэйшая цікавая вандроўка, якую арганізоўвае "Альтус-плюс" называецца **"Залатая падкова Львоўшчыны".** Рэпартаж аб паездцы па гэтым маршруце можна прачытаць у нашай газеце за 18 мая 2004 года. Ад'езд ва Украіну запланаваны на 9 ліпеня. Спяшайцеся, бо колькасць месцаў абмежаваная. Больш падрабязную інфармацыю пра будучае падарожжа можна атрымаць па мінскім тэлефоне **222-88-76.**

**Вядучы конкурсу Віталь ГАРБУЗАЎ.**

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# В Минске чуть не убили Клинтона

*В минском Дворце спорта прошел профессиональный матч по таиландскому боксу Беларусь—США, посвященный 60-летию освобождения Беларуси.*

То, что нашей Федерацией кикбоксинга и таиландского бокса руководит командующий внутренними войсками Беларуси **Валерий ГАЙДУКЕВИЧ**, было заметно сразу — подчиненные Валерия Владимировича исправно несли службу на входе в Дворец.

Но, как оказалось, не все в тот вечер было так уж и исправно. Матч, начало которого запланировали на 19.00, начался чуть ли не на час позже (а где же армейско-милицейская точность?), журналистов отправили на "галерку" под видеомонитор, откуда открывались прекрасные виды на "тылы" почетных гостей за столиками и телеоператоров. Боксеры были видны в эпизодах. Хотя публика сидела рядом очень колоритная.

— Слышь, братан, — обращается мой сосед с расстегнутой чуть ли не до пупа рубашкой, под которой были видны здоровенные золотые цепь и крест, к кому-то из сотрудников административной группы, который рассаживал чиновников за столики. — А мне за столик можно?

— Так садись, типа кто тебе не дает? — растопыривает пальцы тот самый из административной группы.

— Так дай какую-нибудь бумагу.

— А зачем пацану бумага? Садись за столик и "грузи"!

Наверняка, мой сосед был авторитет не очень большого пошиба, потому как ума хватило за столик не усаживаться и даже встать, когда исполнялся белорусский гимн. Правда, тут зазвонил его мобильный телефон, и парень вынужден был извиниться: "Слышь, Лёха, тут музыка играет, ничего не слышно".



Матч, хотя и с опозданием, начался, на ринг вынесли флаги Беларуси и США, и... организаторы тут же поняли, что опять дали маху. Стяги обеих стран были надеты на древки вверх ногами, что техперсонал принялся исправлять уже после исполнения гимнов.

Хотя все это, конечно же, мелочи. Бои были действительно великолепными, и наша сборная еще раз доказала, что на сегодня она одна из сильнейших в мире. В титульных боях за звание чемпиона мира по версии WKN белорусские тайские боксеры **Андрей Коцур** (весовая категория — 62 кг) и **Андрей Кулебин** (58 кг) не оставили шансов американцам **Дэну Ралингсу** и **Раулю Лопесу**, **Денис Лаевский** (72 кг) лихо расправился с импульсивным **Джереми Харминстоном**, а в рейтинговом бою в категории 56,1 кг наш **Алексей Талантов**, простите за каламбур, проявил настоящий бойцовский талант, сражаясь с итальянцем **Патриком Карта**.

А когда на последний кикбоксерский поединок гигантов на ринг вышел наш 120-килограммовый **Александр Устинов**, публика взревела. Не рад, наверное, был его соперник — американец **Джефри Форд Клинтон**, в последний момент заменивший **Андрэ Уолкера** — у последнего оказались проблемы с паспортом. Избиение Клинтона (мой сосед-острослов сопровождал наносимые американцу удары одним и тем же комментарием: "А это тебе, блин, Клинтон, за Монику!") было недолгим — уже к середине первого раунда американец рухнул на ринг. 5:0 — чистая победа!

Кстати, на матче присутствовал сам президент Международной федерации кикбоксинга и тайского бокса **Стефан Кабреро**, который высказал самые хорошие слова в адрес проведенного турнира в целом и наших спортсменов в частности.

По словам главного тренера нашей сборной **Евгения Котельникова**, в октябре в Атланте состоится матч-реванш. И какая нам разница, где побеждать?

**Алесь СИВЫЙ.**
**Фото photo.bymedia.net**

*Уладзімір ПАРФЯНОВІЧ:*

## «Дзяржава не аказвае нашаму віду спорту годнай падтрымкі»

*"Яшчэ восем гадоў таму вялікім дасягненнем для беларускіх прадстаўнікоў веславання было пападанне ў фінальныя заезды на чэмпіянатах свету і Еўропы, а на сённяшні дзень яны рэальна могуць змагацца за медалі",* **— заявіў кіраўнік федэрацыі веславання Уладзімір Парфяновіч.**

І сапраўды, апошнім часам у беларускім веславанні назіраецца яўны прагрэс. За перыяд, які мінуў з Алімпіяды-2000, спартсмены 14 разоў выйгравалі этапы Кубка свету.

Айчынныя байдарачнікі і канаісты заваявалі 11 алімпійскіх ліцэнзій. Плануецца, што на спаборніцтвах у Афінах яны заваююць хаця б адзін медаль.

Як запэўніў старшы трэнер мужчынскай байдаркі **Уладзімір Шантаровіч**, на Алімпіядзе прадстаўнікі веславання будуць імкнуцца выступіць як мага лепш: *"Мы не будзем скардзіцца на дрэннае надвор'е або моцны вецер. Да Алімпіяды рыхтуемся, як да звычайнага спаборніцтва. Галоўнае, каб ніхто нікога не пераналстройваў".*

Такога ж меркавання прытрымліваецца і трохразовы Алімпійскі чэмпіён Уладзімір Парфяновіч: *"У нас ужо ёсць вынікі працы, а таксама задзел на будучыню. І гэта пры тым, што ніякай увагі да нашага віду спорту з боку дзяржавы не назіраецца. Выключэнне складае толькі нацыянальная каманда — для яе працы створаны ўсе ўмовы. Але рыхтаваць рэзерв даволі праблематычна. За апошнія 50 гадоў дзяржава не аказала дапамогі ні па адной базе, дзе б маглі рыхтавацца спартсмены. Але надзея на тое, што будзе прынята дзяржаўная праграма па падтрымцы нашага віду спорту, у нас ёсць, бо на апошнім пасяджэнні выканкама НАК пра гэта заявіў Уладзімір Дражын".*

Застаецца спадзявацца, што высокапастаўлены чыноўнік стрымае свае слова.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## Акцыя «Дарога памяці»

Пробашч касцёла святых Сымона і Алены ў Мінску ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк запрашае жыхароў сталіцы ўзяць удзел у акцыі "Дарога Памяці", якая адбудзецца 10 ліпеня.

У інтэрв'ю БелаПАН святар адзначыў, што дата 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў "звяртае нашу ўвагу не толькі на ветэранаў, што выжылі сярод жахаў Другой сусветнай вайны, але і на маладое пакаленне, якое павінна цаніць мір пад назвай жыццё".

У сувязі з 60-годдзем вызвалення каталіцкая абшчына Чырвонага касцёла ладзіць велапрабег "Дарога Памяці" па маршруце: касцёл Сымона і Алены — плошча Перамогі — Курган Славы. "Аднак у акцыі плануецца ўдзел не толькі парафіян касцёла, але і ўсіх людзей добрай волі", — заўважыў У.Завальнюк.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Вторник, 6 июля

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.05, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!"
**07.30, 08.30, 20.00** "Деловая жизнь".
**09.10 "Иван".** Киноповесть.
**10.20, 20.05 "Тайны следствия".** Сериал.
**11.10, 17.20 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10** "Зона Икс".
**12.25 "Государственная граница". "На дальнем пограничье".** Сериал.
**13.40** "Солдаты Италии". Док.фильм.
**14.10** "Одноклассники". Телеигра.
**14.55** "100 шагов к Олимпу".
**15.15 "Фантазеры".** Худ.фильм.
**16.20 "Лицей".** Сериал.
**18.25** "Шпилька".
**18.55 "Спрут".** Сериал.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Специальный репортаж".
**22.00 "Возвращение Мартена Герра".** Мелодрама.
**00.05** Бильярд. Чемпионат Европы. Видеообзор.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.10** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05 "Клон".** Сериал.
**09.55** "Дисней-клуб". "Мышиный дом".
**16.00 "Женщины в любви".** Сериал.
**17.00** "Слабое звено".
**18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**20.00** "Время".
**21.00 "Черный ворон".** Сериал.
**22.00 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**23.25** "Не только о футболе".
**23.50 "Танцор".** Сериал.

**РОССИЯ**

**07.45, 19.55 "Бедная Настя".** Сериал.
**08.45 "Директория смерти".** Сериал.
**09.40, 23.00** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50, 20.50 "Марш Турецкого".** Сериал.
**16.10 "Агентство "Золотая пуля".** Сериал.
**17.05 "Нежное чудовище".** Сериал.
**18.00 "Комиссар Рекс".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**22.40** "Вести +".
**23.15 "Эксперт".** Боевик.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Есть только миг".
**08.35, 22.05 "Наполеон и Европа".** Сериал.
**09.35** "Пой, душа!"
**10.05, 18.25** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.30, 21.15 "Грешная Анхелика".** Сериал.
**11.15, 13.10** "Обычный необычный день".
**11.50 "Безбожная молодежь".** Драма.
**13.40** Мультфильм.
**14.10 "Бронзовая птица".** Приключенческий фильм.
**15.15 "Маугли".** Сериал.
**15.40** "Не зевай!"
**15.50** "Из архивов БТ".
**16.30** "Ностальжи".
**16.55 "Тревоги первых птиц".** Киноповесть.
**18.45 "Купальская ночь".** Комедия.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Их нравы с Дмитрием Захаровым".
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** "Дикий мир: борьба за выживание".
**17.35** "Протокол".
**18.40 "Мангуст". "Чужая война".** Сериал.
**19.50 "Не ссорьтесь, девочки".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.35** "Красная стрела".
**21.45 "Эвита Перон".** Сериал.
**23.00 "Клан Сопрано".** Сериал.

**СТВ+RenTV**

**06.30, 17.30** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.45** "Утро столицы".
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.15, 20.20** "Технология".
**08.25** "Столичный футбол".
**08.55** "Добро пожаловаться".
**09.10** "Трансформеры". Мультфильм.
**09.35 "Заказанный убийца".** Боевик.
**11.05** "Маска". Мультсериал.
**11.30** "Пока горит свеча".
**12.00** "Час суда".
**12.45** "Телеафиша".
**13.00** "Под углом 23 с половиной градуса". Док.фильм.
**13.50 "Война под крышами".** Худ.фильм.
**15.25 "Мятежный дух".** Сериал.
**16.10** "Кадровый вопрос".
**16.50** "Турпоход".
**17.00 "Вовочка".** Сериал.
**17.50 "Сыновья уходят в бой".** Худ.фильм.
**20.10** "Тема дня".
**20.35** "Закон и криминал".
**20.55 "Колдовство".** Триллер.
**23.10** "Игровой рефлекс".
**23.20 "Восставший из пепла".** Публицистический фильм.
**00.05 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.50** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00, 17.00 "Моссад".** Сериал.
**07.50, 17.50, 19.40, 21.00** "Телемагазин".
**08.00 "Принцесса на горошине".** Сказка.
**09.20, 20.40** "К-видео" — "Топ-8".
**09.30** "Полезные советы".
**09.45, 19.50 "Полиция Гамбурга".** Сериал.
**10.30, 21.10 "Далеко-далеко".** Боевик.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "12 стульев".** Сериал.
**19.10** "Последний миф". Док.сериал.
**19.35** "Атомик Филмз" и К-видео" представляют...
**20.45** "Вечарніца".

**ТВ ЦЕНТР**

**05.00, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Мачеха".** Драма.
**09.25** "Еще жива ль ты, русская усадьба?". Спецрепортаж.
**09.40** Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "Момент истины".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.20** "Как добиться успеха. Доктор Богданов".
**14.30** "Я — мама".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Командоры, вперед!".
**16.10** "Умный нашелся...". Ток-шоу.
**17.15** "Очевидное-невероятное".
**18.00 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**19.00** "Лицом к городу".
**20.00 "Возвращение Шерлока Холмса".** Сериал.
**21.40** "Отдел "Х".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** "Супердиск".
**00.00 "По закону".** Сериал
**01.00** "Синий троллейбус".

**EUROSPORT**

**09.30** Современное пятиборье.
**10.30** Легкая атлетика. Гран-при. Ираклион.
**12.15** Пляжный волейбол. Норвегия. Финал. Женщины.
**13.15** Эстафета олимпийского огня.
**14.00** Спидвей. Гран-при. Дания.
**15.00** Велогонки. Тур де Франс. Прямая трансляция.
**19.00** Футбол. Альпийский кубок. Зальцбург.
**21.00** Легкая атлетика. Гран-при. Лозанна.
**23.30** Олимпийские игры. "Цель — Афины".
**00.00** Велогонка. Тур де Франс. Обзор.
**01.15, 02.15** Автогонки НАСКАР.

Оборудование для ПРАЧЕЧНЫХ и ХИМЧИСТОК
КОМПРЕССОРЫ воздушные, газодувки, пневмооборудование, запчасти, пневмофильтры, воздухосборники
ТЕПЛООБМЕННИКИ пластинчатые, КТП, КРАНЫ ДРОВОКОЛЫ
Для покраски: агрегаты ФИНИШ, ВАГНЕР краскораспылители, запчасти
РЕМОНТИРУЕМ, обслуживаем оборудование прачечных и химчисток
Тел: (8-0172) 31-42-69, 69-38-11
Тел/ф (8-0172) 68-62-21

**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 206-68-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.
E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 080 экз. Заказ № 682.